№ 8. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 8 (100). Год II. Вільня, 26 студня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Прыпадкі у Расеі.

### 25 студня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У Артуа, між Анкр і Соммай і на Эн—работа артылерыі і мінамётоў. На паўночным заходзі ад Рэймсу нашы патрулі вярнуліся з опэрацыі з 1 афіцэрам, 30 салдатамі і 2 кулемётамі.

**Усходні тэатр.**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Набапол Аа нашымі атакамі здабыты расейскіе пазыцыі на шырыні 10 кілометроў с 14 афіцэрамі, 1700 салдатамі і 13 кулемётамі. Сільные расейскіе контратакі нічога не дайшлі.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэф а*: Між далінамі Касіну і Путна ўзяты 50 палонных.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: На румынскай раўніне, наагул, спакойна. Уздоўж Дунаю—артылерыйскі агонь.

---

### Арэшт Мілюкова?

ПАРЫЖ. «Journale» даносіць с Пецярбурга:

Мілюкова, галаву партіі кадэтоў, як кажуць, арэштавалі. Вялікі князь Мікалай выступае, як зашчытнік народнаго настраеньня проці рэакціі. Есць чуткі, што ён— у Пецярбурзі і прылажыў руку да апошніх здарэньнёў. Здаецца, што і ў будучыне ён будзе іграць выдатную ролю.

### Тайные нарады.

ШТОКГОЛЬМ. Расейскіе опозыцыйные партіі апынуліся болей-меней у тым жэ палажэньні, у якім былі ў 1905 гаду перад рэвалюціей. Усюды адбываюцца патайные сходы, на якіх апавешчаецца вайна правіцельству не на жыцьцё, а на сьмерць. „Бірж. Вед.“ пішуць, што і кадэты мелі тайную нараду. Паліція даведалася аб ей, але спазьнілася і здалела толькі сконфіскаваць некольні важных дакумэнтоў у кватэры кн. Долгорукова.

### Голад і бунты у Расеі.

ШТОКГОЛЬМ. З усіх канцоў Расеі ідуць весткі аб голадзі і галодных бунтах.

Губэрнатар арлоўскай губэрні даносіць аб сур'ёзных разрухах.

У Кіеві ў местовых складах папсавалося 100.000 пудоў мукі.

У Твері нельга дастаць куска хлеба.

### Назначэньня Сазонова ня будзе.

ШТОКГОЛЬМ. На моцы офіцыальнай заявы пецярбурскаго тэлеграфнаго агенцтва, што вестка Рэўтэра аб назначэньні Сазонова паслом у Лондоні—няпраўдзівая, расейская прэсса даводзіць, што назначэнь не гэтае робіцца мала падобным да веры. Аднак, можна спадзевацца, што Сазонов і тады, калі яго не назначаць за пасла, паедзе у Англію. Тады яго палітычную кар'еру трэба лічыць закончэнай.

### Абурэньне румыноу.

БЭРЛІН. Расейскіе ўласьці баяцца абурэньня румынскаго насяланьня с прычыны знішчэньня, зробленаго англіцкімі камандамі дзеля падпалу. Гэта відаць з ніжэйпісанаго апавешчэньня камэнданта Браіла: „С прычыны загаду расейскай глаўнай каманды апавешчаецца дзеля ведама войска і цывільных жыхароў, што спажыўные прадукты паляць англіцкіе агенты, каб гэтые прадукты, прыналежные англіцкаму ураду, не папалі ў рукі ворагоў. Гэта апавешчаецца дзеля агульнаго ведама, каб не узнялося проці расейскіх войск абурэньне румынскаго насяленьня. Камэндант гарнізону“.

### Аустро-Вэнгерская умова.

ВЕНА Між Аўстрыей і Вэнгрыей зроблена таргова-прамышленая умова на 20 гадоў.

### „Марская чайка“.

РОТТЭРДАМ. Паводлуг тэлеграмы з Ріо-дэ-Жанэйро, новая «Марская чайка» называецца «Вэнэта».

### Агульная забастоука.

БАБЦЭЛОНА. На генэральнай нарадзе прэдстаўнікоў 300 сындыкатоў пастаноўлено аб'явіць агульную забастоўку.

---

## Дзень урадзін Імператара Вільгэльма.

Заўтра, ў суботу, 27 студня, ўся Нямеччына сьвяткуе дзень урадзін свайго Імператара, Вільгэльма II.

Імператар Вільгэльм II між монархамі ўсіх старон сьвету нашых часоў занімае найбольш выдатнае мейсцо: ні ўваднэй дзержаве яе сучаснае палітычнае жыцьцё не звязано так цесна з імем яе вярхоўнаго валадара, як у Нямеччыне. Яго панаваньне—гэта асобная эпоха ў гісторыі нямецкаго народу.

Цьвёрда вядучы сваю палітыку ў кірунку найвышэйшаго развіцьця творчых сіл старонкі сваей, Імператар Вільгэльм II разумеў, што, раней ці пазьней, Нямеччыну жджэ немінучае крывавае змаганьне з другой дзержавай—Англіей, каторая, апіраючы быт свой на прамышленнасьці і сусьветнай таргоўлі, не магла спакойна глядзець на расцьвет небаспечнаго конкурэнта. І вось палітыка Імператара Вільгэльма, дальнавідна угледаючыся ўпярод, кіравалася безупынна да таго, каб сілай аружжа свайго забаспечыць сваей дзержаве здабыты дабрабыт, забаспечыць далейшае ўсестароннае развіцьце Нямеччыны.

На нашых вачах збылося тое, што прачувала Нямеччына: 1914 год прынёс сусьветную вайну, ў каторай Расея, падбіваная сваей саюзьніцай—Англіей, кінула Нямеччыне вызаў, змобілізаваўшы на граніцах яе сваю армію. Імператар Вільгэльм гэты вызаў прыняў,—і далейшые здарэньня паказваюць, што крок гэты апіраўся на цьвёрдай сьведомасьці сваей сілы: за знамёнамі Нямеччыны ўсюды йдзе пабеда.

Нямецкі народ с поўнай верай глядзіць у будучыну і с поўнай верай аддае сваё жыцьцё і меньне на прызыў свайго Імператара. З яго шчасьлівай дагэтуль зоркай ён не задумываючыся звязаў увесь свой быт, усю сваю долю. І з гэтай прычыны заўтрашні дзень— дзень 58-ай гадаўшчыны урадзін Імператара Вільгэльма — гэта сапраўднае нацыональнае сьвято Нямеччыны.

---

## Чыя віна?

**Чытаючы „Гоман“, часта здаралося заўважыць скаргу беларускаго народу на польскіх паноў і маскоўскае правіцельство. Па часьці была гэта скарга справядліва, але часамі зусім не.**

Найбольша, па моему, віна была нашай цемнаты—нас самых.

Запытаемося сябе цяпер, хто нам найбольш дакучаў, хто нас крыўдзіў.

Атказ гэтакі. У вёсцы: старшына, староста,ураднік, станавы прыстаў, сельскі вучыцель. У дварэ: намесьнік, аконам і другіе ім падобные. У горадзі: гарадавы, акалодачны і прыстаў. На чыгунцы: кандуктар, жандар.

Чым жэ яны дакучалі?

А от чым.

I. Люд вясковы—гаспадары, як ведама, не знаёмы з уставамі і правам гасударства, чытаць па часьці ня ўмее, знае сваю гаспадарку і нічым больш не цікавіцца. Як ня трэба, дык і добра, але як прыдзецца уладзіць якую справу, то тагды мусіць чэлавек удавацца па раду да свайго вясковаго начальства, а начальство тое з гэтаго і карыстае: замест таго, каб вытлумачыць, памагчы, то яно так павядзе справу, што бедны мужык удвая ў бяду ўлезе, а тагды німа рады: разумее мужычок, у чым дзело, нясе гасьцінцы дый грашмі многа траціць, каб з бяды выкупіцца.

II. Сельскі вучыцель. Як толькі гаспадар, катораго сын ходзіць да школкі, ад часу да часу нешта прынясе ды ўсуне ў руку, то і сын добры і добра вучыцца; а барані Божэ не, то сын будзе першым гультаём і свавольнікам.

III. Прыехаў мужык у горад. Тут зара яго бяруць пад апеку гарадавые ды акалодачные: а то не так каня паставіў, а то там ня гэтак стаў, як яму падабаецца, а то штось дрэннае сказаў, або чаго прадаць чы купіць не хацеў. Усюды беда і ўсюды гніся, маўчы і пакарайся, бедны чэлавечэ, бо толькі акажыся, то зара пападзеш у вучастак, пераначаваць прыдзецца ў холадзі і ў голадзі, ды і конь з возам астанецца пад Божаю апекаю, дазнаваючы такой выгоды, як і гаспадар.

IV. У дварэ ня лепей беднаму мужыку: кожнаму кланяйся і кожнаго бойся.

V. Аказаўся мужык на чыгунцы, і тут беда: пакуль да вагону, то жандары „апекуюцца“, а як сеў у вагон, то ізноў кандуктар круце, як можэ.

Цяпер глянем: ды хто гэта за яны—гэтые старшыны, вучыцелі, гарадавые, ды намесьнікі?

І што-ж бачым? Аж устыд і грэх сказаць, бо гэта ўсе браты нашые, браты беларусы.

Бачым цяперака, што ўсяму гэтаму вінна наша пыха, дума, эгоізм. У нас заўсёды, як толькі дастаў шапку з гвёздачкаю, то а сваім браце, каторы ходзіць у сьвіце, забыўся і ў дадатку гаварыць з ім ня хочэ.

Бачым, што віна наша.

Цяперака, калі першая зорка блiснула гэтай асьветы, стараймося і працуймо над тым, каб люд наш як найбольш пазнаў праўду і братэрскую міласць, каб брат брату ва ўсякай бядзе і патрэбе як найбольш памагаў, каб наша старшызна (начальство) не была ўжо гэткімі скурадзёрамі, але праўдзівымі бацькамі, каб вучыцелі нашые не вучылі за „гасьцінцы“, але самі як найбольш несьлі і разсевалі асьвету між цёмным людам.

Аб гэтым нам усім трэба парупіцца, бо часу мала.

*Ян Цыбульскі.*

Вільня 18/I 1917.

# У Вільні і ваколіцах.

× **Абеды для дзяцей беларускіх школ.** Як вядома, Беларускі Камітэт дае вучням беларускіх школ у Вільні дармовые абеды, а як вучні гэтые належаць да найбяднейшых сямей, дык тые абеды становяць для іх глаўную ежу. С прычыны таго, што новые карты на хлеб вымагаюць, каб за зупу з народных стравень для дзяцей паменшалі дзенную порцію хлеба на чверць, безмала ўсе вучні беларускіх школ аказаліся без абедоў, бо бацькі не давалі ім хлебовых карт. Такі-ж крызіс перэжывалі і чысьленые ў Вільні жыдоўскіе школы.

З гэтай прычыны вучыцелі беларускіх і жыдоўскіх школ звярнуліся да Stadthauptmanna с просьбай, каб да вучнёў іх школ, якім пры навуцы асабліва патрэбна гарачая страва, не стасавалі новаго загаду аб выдачы зупы паводлуг карт на хлеб. Просьба гэта споўнена, і местовые ўласьці будуць выдаваць на абеды для вучнёў беларускіх і жыдоўскіх школ патрэбные прадукты па прыступнай цане, не адбіраючы чверці дзеннай порціі хлеба.

Беларускі Камітэт сваіх стравень не мае, дык, як мы чулі, ён маніцца ўгаварыцца з народнымі страўнямі і з работніцкай страўняй, каб яны для беларускіх дзяцей варылі абеды з дастаўляных местовым урадам на іх долю прадуктоў.

× **Закрыцьце школ.** На урадзіны Нямецкаго Імператара 27 студня ўсе віленскіе школы будуць зачынены.

× **У кватэрантоў.** У нядзелю, 21 студня, адбыўся агульны сход членоў саюза кватэрантоў у гаспodзі яго.

Сход быў даволі чысьлены. Выслухаўшы справоздачу ураду, сход абгаварываў цякучые справы саюза і кватэрантоў наагул. Пасьля жывых гутарак былі прыняты дзьве рэзолюціі: першая — прасіць нямецкаго граданачальніка, каб усе спорные справы між кватэрантамі і гаспадарамі дамоў, якіе цяпер разгледаюцца у апошняго, аддавалі бы ў грамадзянскі угодлівы суд, у якім у роўным чысьле ёсць прэдстаўнікі абедзьвех старон; другая—прынімаючы пад увагу, што члены местовай камісіі апекі над пакінутымі дамамі чыняць розные перашкоды ўпаўнамочэным саюза кватэрантоў пры аглядзе і ацэнцы пустых гаспод, прасіць прыналежные ўласьці, каб у местовай камісіі прэдстаўнікі кватэрантоў мелі-бы роўнае числo галасоў, як цяперашніе члены камісіі.

× **Беларускі кабарэт.** У Беларускім Клюбе на спатканьне Новаго Году, на трэйцюю куцьцю (перад трэма Каралямі) і ў апошнюю суботу на звычайных вечарынках для членоў і запрошэных гасьцей быў наладжэн кабарэт пад артыстычным кірункам п. Ф. Олехновіча. Тут выступалі чысьленые музыкальные, вокальные і дэкляматарскіе сілы, даючы сабраным сымпатычную забаву праз пару гадзін. Кабарэт быў вытрыман у такім тоне, каб на ім сьмела магла бываць наша моладзь. І апошняй было многа, бо, апрыч беларусоў, збіралося многа літвіноў ды цаадзінокіе палякі.

Шкада толькі, што цесная гаспода Клюбу ня можэ стоўпіць вялікшаго чысла гасьцей, каторые вельмі ахвоча бываюць на кабарэці. Трэба думаць, што гэта ешчэ не апошні кабарэтовы вечар.

× **Узрост цэны хлеба.** Ад 23 студня гэтаго году расейскі фунт чорнаго хлеба каштуе 18 фэн. = 9 кап., фунт пшоннаго хлеба — 25 фэн. = 12½ кап., фунт жытняй мукі — 21 фэн. = 10½ кап., фунт ячменнай, аўсяннай або пшоннай мукі — 25 фэн. = 12½ кап.

× **Проці несумленных пекароў.** С прычыны жалаб на несумленнасць пекароў, каторые дадаюць да хлеба атрубы і мякіну, загаданы крокі дзеля суроваго кантролю і пакараньня іх. Усе жыхары прызываюцца памагчы ў гэтай справе, заяўляючы паліціі аб усіх прыпадках нарушэньня назначэных цэн, адмовы прадаць хлеб, льготы адным пакупцам перад другімі, прадажы благога хлеба і т. д. Пекарам пад страхам закрыцьця той час іх пекарэнь забаронено мець у сваіх кватэрах і пекарнях атрубы — ўсё роўна, дзеля якой мэты.

× **Вывеска цэн у крамах.** Крамы ўсё ешчэ вельмі часта не выпаўняюць загаду аб вывесцы ў вокнах цэн тавароў. Надалей у кожным такім прыпадку будуць назначацца кары без ніякай палёгкі.

× **Недахватка рыб.** Каб павялічыць падвоз рыбы ў горад, павялічываюцца найвышэйшые цэны на рыбу. Апрыч таго местовае упраўленьне ўгаварылося с суседнімі начальнікамі паветоў аб дастаўцы яму рыбы дзеля прадажы на рынку і аб рэгуляціі цэн.

× **Тэлеграмы ў межах Обэр Ост.** Па загаду ваеннаго міністэрства прыватные тэлеграфные зносіны між Нямеччынай і Варшаўскім генэрал-губэрнатарствам, а так сама этапнай тэрыторыэй Обэр Ост дапускаюцца ў неагранічэным чысьле слоў.

× **Скорая помач.** Ад 15 да 21 студня скорая помач дадзена ў 75 прыпадках. Карэтку скорай помачы вызывалі 45 разоў.

× **Курс рубля:** оффіцыальны — 2 м. 00 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 18 ф., пры куплі—2 м. 22 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

# БІБЛІОГРАФІЯ.

**Важнейшые польскіе працы аб Беларусі і беларусах.**

*D-r Tad. St. Grabowski.*

(Гл. пачатак ў № 4).

**Orzeszkowa El.:** Ludzie i kwiaty. (Do etnogr. ludu białorus. i zielnik białorus. — «Wisła», 1838).

Opis ziem zamieszkanych przez Polaków. (Warszawa 1904—1904).

Pieśniarz białoruski. (Marcinkiewicz, tłum. „Pana Tadeusza“. „Kraj“ 1885).

**Pobóg Stan.:** Społeczeństwo polskie na Białej Rusi. («Przegl. pol.» 1893).

Podania o Białorusi. („Tygodn. Petersbursk“ 1836).

**Podbereski Rom.:** Listy z Białej Rusi. («Tygodn. Petersburski», r. 1844).

**Potocki Tom:** O gospodarstwie na Białej Rusi. (Roczn. gospod. Krajow. Warsz. T. VII. 1851).

Przyczynek do sprawy szkół ludowych na Białorusi. («Kraj» 1884).

**Rozwadowski Jan:** Uwagi o dyftongach ie, uo w połud.-zachod. narzeczu białorusk. („Mater. i prace jęz. Akad. Um.“ — Kraków, 1904).

**Römer M.:** Zagadnienia narodowe białoruskie. („Prawda“, 1907).

**Rypiński Aleks.:** Białoruś. Kilka słów o poezii prostego ludu; o jego muzyce, śpiewie i tańcach. (Paryż, 1840).

**S.:** Książka o Litwie i Białorusi. (Kraków, 1883).

Statystyka Białorusi. («Tyg. petersbur.» 1834).

**Stodolski J.:** Etnografia Słowiańszczyzny (Lwów, 1887).

**Studnicki Wł.:** Stosunki społeczne i ekonomiczne na Litwie i Rusi. («Polska», wyd. „Macierzy Pol.“ T. II. Lwów, 1909).

**Sulimierski Fil.:** Białoruś (W t. I. „Słownika Geograf. polsk.“ 1880. Tamże opisy poszczególnych powiatów A. Jelskiego, J. Krzywickiego i in.).

**Szarlowski A.:** Z dziejów Białorusi i Litwy. („Przegl. powszech.“ 1894).

**Szpilewski Ant.:** O Białej Rusi. („Dzien. Minist. Oświec.“ r. 1846).

**Tyszkiewicz Eust.:** Opisanie powiatu Borysowskiego. (Wilno, 1847).

Unia na Litwie i na Białorusi. Memoryał przesłany Piusowi IX (Paryż, 1862).

**Walicki Al.:** Błędy nasze w mowie i piśmie. (Warsz. 1879.—białorusycyzmy).

**Wasilewski Leon:** Litwa i Białoruś. (Przeszłość—Teraźniejszość—Tendencye rozwojowe. Kraków, b. d. r.).

**Wasilewski Leon:** Litwa i jej ludy. (Warszawa, 1907).

**Weryho Wład.:** Podania białorus., z wstęp. Jana Karłowicza. (Lwów, 1889).

**Wiszniewski Mich.:** Historya literatury polskiej. (Warsz. 1851. (w t. VIII rys dawnego piśm. białorus.).

**Wójcicki Kaz.:** Pieśń ludu polskiego. (Warsz., 1836., m. i. i białoruskie).

**Wołodkowicz Józ.:** O zabytkach na Białorusi. („Wędrowiec“, Warsz. 1897).

**Załęski Stan. ks:** Zniesienie zakonu Jezuitów w Polsce i jego zachowanie na Białej Rusi. (T. I—II. Lwów, 1874).

**Zienkiewicz Rom.:** Piosnki ludu pińskiego. (Kowno, 1851).

**Zienkiewicz Rom.:** O uroczystościach i zwyczajach ludu pińskiego, oraz charak-

# РАМАНС.

Стаська, прыпомні, было то зімою,
Кветку цішком ты мне улажыла
У кішэнь мой сваею кволай рукою;
Ты кветку мне улажыла.

Як выходзіў ад вас, спытаўся я так:
— Скуль у кішэнь мой цьвяточак забраўся
Маленькі, пахнючы, чырвоны як мак?
Я у цябе запытаўся.

Ты, вочкі спусьціўшы, счырванела, як рак.
Ты-ж гэта зрабіла?—пытаў я нясьмела.
Галоўкай кіўнуўшы, сказала ты „так“
І, вочкі спусьціўшы, уся счырванела.

І слоўцо гэто душы маей міло,
Як кветка ў душы твой облік мігае
І слово тваё мне сьпевае...

„Так, так“, мне сэрцэ цьвярдзіць безустанку.
Ціж тваё сэрцэ так сама ня сьпіць?
Скажы-ж папраўдзі, скажы без абманку!?
— „Так, так“,—мне сэрцэ цьвярдзіць.

**Янка Быліна.**

# Каралеўна на гарошыні.

Быў сабе каралевіч і задумаў жаніціся, само-сабой с каралеўнай, але са шчырай каралеўнай, с праўдзівай. От і паехаў ён у сьвет шукаць сабе жонкі: і спраўдзі, каралевен траплялося яму немало, ды якжэ даведацца, ці праўдзівые яны ці не? Кождай што небудзь неставало. Езьдзіў ён, езьдзіў.. дый вярнуўся дамоў маркотны, што не апытаў сабе жонкі.

Раз вечэрам была страшэнная непагода; маланкі мігацелі на небі, гром грукацеў без упынку, а дождж ліў, як с цэбра: сказана, арабінава ноч!

От, гэткай то ночы нехта пастукаўся ў вароты каралеўскаго будынку. Стары кароль, насунуўшы на ногі апоркі, пабег сам адчыняць; глядзіць — каралеўна, але, Божухна-Бацюхна, як яе дождж пахвастаў і бура растрэпала! Вада аж хлюшчыць з валосься, с сукенак, з опраткі, чуркаціць па нагах у чэравікі і праз запяткі вон выліваецца. Але дармо, — дзяўчына удавала с сябе праўдзівую каралеўну.

— Пабачымо, дазнаемося зара!—падумала старая караліха; ды хутчэй, ні слова не кажучы, пайшла у спальню, зняла з ложка ўсю пасьцель і на самы спод палажыла гарошынку; пасьля ўзяла двадцаць пярын дый паклала на гарошыні, а паверх тых пярын палажыла ешчэ двадцаць пухавікоў. Гэтку, во, пышну пасьцель паслалі для таей каралеўны.

Пэрэначэваўшы, на раніцы, прыходзіць старая караліха да каралеўны і пытае, —як ей спалося, лежалося?

— Блага, вельмі блага!—атказала тая:— цалюсеньку ночку і вачэй ня сплюснула! Бог яго ведае, што там было ў ложку!? Нештось цьвёрдае, як камень: гэтак пакалечыло мяне, гэтак пакалечыло, што ўсё цело сінякамі пазначылося!

Тады ўжо ўсе з яе гутаркі прызналі яе за праўдзівую каралеўну: бо праз двадцаць пярын і праз двадцаць пухавікоў яна гарошынку ўчула. Запраўды, ніўкога, як толькі у праўдзівай каралеўны, магло быць гэткае кволае, чуткае цело!

Калі каралевіч пэрэканаўся, што гэта была найпраўдзіўшая каралеўна, ўзяў яе за жонку, а гарошынку паклаў у скарбец, дзе яна можэ, калі не украў каторы міністэр, і дагэтуль ляжыць.

З Андэрсона пэрэклад *В. Л.*

ную кватэру зроблена расейска-румынская умова, забаспечываючая Румыніі вельмі значную ваенную і дуплёматычную помач Расеі дзеля адбудовы Румыніі і дзеля адплаты ей за ўсе ахвяры.

**Пераезд румынскаго ураду.**

ШТОКГОЛЬМ. Паводлуг расейскіх вестак, румынскі двор і румынскае правіцельство ў найбліжэйшым часі пераедзе з Ясс у Одэссу. Думка пэрэбрацца ў Кішынёв з ваеннаго пагляду аказалася неспаўнімай.

КОПЭНГАГА. Расейскіе ўласьці толькі цяпер пачалі завадзіць лад між румынскімі ўцекачамі. Наплыў саюзьніцкіх уцекачоў у палудзенную Расею пачынае прынімаць сур'ёзную форму. Уцекачоў, каторые да аканчацельнаго вызначэньня ім мейсца жыцьця знаходзяцца пад надзорам паліціі, партіямі па 1000 душ адсылаюць да Днепра і па ім на лодках едуць далей на поўнач.

**Незнаны твор Гоголя.**

ПЕЦЯРБУРГ. Член Пушкінскаго Т-ва пры Імпэратарскім Унівэрсытэці ў Пецярбурзі, Оксманн, знайшоў у архіве расейскаго цэнзурнаго камітэту аповесць вядомаго пісьменніка Гоголя, напісаную ешчэ перад гістарычным раманам „Тарас Бульба“, ды яе нет вецама чаму не разглядзела цэнзура ад 1834 году. Нова-аткрытая аповесць будзе ў найбліжэйшым часі надрукована у адным з вялікіх расейскіх журналоў.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

**23.І. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На паўночным усходзі ад Армант'ер баварскіе патрулі ўварваліся ў акопы ворагоў і вярнуліся адтуль з неколькімі палоннымі і кулемётамі. На паўночным заходзі ад Фромэль англіцкіе патрулі адбіты. Наагул жэ туман здзержываў баевую чыннасць.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Уздоўж Дзьвіны і на паўночным заходзі ад Луцка агонь артылеры момэнтамі крапчэў. На заходзі ад Дзьвінска расейскі атрад, уварваўшыйся на перадодні на нашу пярэднюю лінію, выкінут адтуль назад.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* У нескалькіх пунктах лясістых Карпат і ў гарах на граніцы Молдавіі — вострые артылерыйскіе бітвы. Між Сланіцай і далінай Путна ўзяты 100 палонных. На поўдні ад даліны Касіну адбіты сільные наступленьня ворагоў.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: На ніжняй часьці Путны — удачные патрульные бітвы.

У Добруджы боўгарскіе войскі пры Тульчы перайшлі цераз палудзенны рукаў Дунаю і ўдзержаліся на яго паўночным беразі, ня гледзячы на расейскіе атакі.

*Македонскі фронт:* Без выдатных прыпадкоў.

**24.І. Заходні тэатр.**

Пры вельмі марозьлівай пагодзі блізка на ўсіх фронтах баевая работа была агранічэная. Лятуны карысталі з добрых варункоў для нагляду. У чысьленых бітвах на паветры і ад нашаго зашчытнаго агня ворагі утрацілі 6 самалётоў.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Набапол Аа і на поўдні ад Рыгі узняліся ўдачные для нас бітвы.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа*: Пры сільным марозі толькі ў некаторых пунктах быў агонь артылерыі і патрульные бітвы.

*Фронт Макензэна*: Паўночны бераг рукава Сьв. Юрья, на поўначы ад Тульчы, прышлося ізноў пакінуць.

*Македонскі фронт*: Без перамен.

## Аустрыяцкае апавешчэньне.

ВЕНА 23.І. Усходні тэатр: (гл. нямецк. апав.).

**Італьянскі тэатр:** Каля Герца дружыны нашых егроў здабылі акоп ворагоў і прывялі 3 афіцэроў, 134 салдатоў і 3 кулемёты.

Агульнае палажэньне не змянілося.

**Бітва на моры.**

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Часць нямецкіх торпэдных лодак сустрэцілася з англіцкімі марскімі сіламі пры Говдэн. Пры гэтым зніштожэн у ворагоў контрмінаносец, а другі, як бачылі з нашых аэропланоў, у канцы бітвы тануў. С паміж нашых торпэдных лодак адна с прычыны зробленых шкод прымушэна была ратавацца ў голандзкім порці Імойдэн. Іншые нашы торпэдные лодкі ўсе вярнуліся назад з невялікімі стратамі.

**«Вайна да канца!»**

БЭРЛІН. Палата Паноў. Маршалак гр. Арнім пры аткрыцьці палаты паноў сказаў, між іншым, у сваей прамове: „Для нас справа ідзе аб жыцьці або сьмерці. Для Нямеччыны прыйшоў час развязкі яе долі. Меч, дзело і воля— гэта цудоўные трайные адзнакі немцоў, якіе зліваюцца у адным слове: пабеда“.

**З'езд маршалкоў парлямэнтоў.**

БЭРЛІН. Сюды прыехалі ў госьці да маршалка нямецкаго пярлямэнту маршалкі аўстрыяцкаго, вэнгерскаго, боўгарскаго і турэцкаго парлямэнтоў.

**Перамэны на фронці.**

БЭРЛІН. «Русск. Сл.» даносіць, што саюзьнікі пастанавілі зрабіць гэткую змену ў размешчэньні войск: Англія павінна заняць часць францускаго фронту, французы — заняць часць італьянскаго фронту, а італьянцы — пасляць неколькі корпусоў на Балканы.

«Бірж. Вед.» гэтак сама пішуць, што італьянская глаўная каманда пастанавіла пасляць значные сілы на Балканы.

**Грэцкая трагедія.**

БЭРН. На Афонскім полуострові саюзьнікі высадзілі на бераг новае войско для Сэррайля. Гэта — новае цяжкое нарушэньне нэутральнасьці, бо гара Афон пасьля балканскіх войн аб'яўлена нэутральнай.

## За мір.

ЛОНДОН. Часць францускіх соцыалістоў — членоў парлямэнту і 4 соцыалісты—члены сэнату з'ехаліся ў Ліоне дзеля пэрэгавороў с соцыалістамі-дэпутатамі з італьянскаго парлямэнту. Запрошэные англіцкіе соцыалісты не маглі прыехаць, бо англіцкае правіцельство не дало ім пашпартоў.

Праграма нарад укрываецца. Аднак, у лондонскіх соцыалістычных кругах ходзяць чуткі, што нарада адбудзецца аб палажэньні работнікоў у Італіі, Англіі і Расеі, ды што іх маняцца прызваць выступіць за мір, прыступны для абедзьвех ваюючых старон.

ХРЫСТЫАНІЯ. Камітэт норвэжскай работніцкай партіі прыняў рэзолюцію, каторая дамагаецца сазыву міжнароднаго конгрэсу дзеля разгляду мірнаго прэдлажэньня.

**Пагляд Вільсона на мір.**

ВЕНА. (В.Т.Б.). Прэзыдэнт Вільсон звярнуўся да Сэнату Злучэных Штатоў с пісьмом, у каторым, між іншым, пішэ:

„...Узаемные заверэньня (ваюючых старон пры замірэньні) не павінны рабіць ніякай розніцы між вялікімі і малымі, дужымі і слабымі народамі... Мір ня можэ быць трывалым, дый не варта, каб ён трываў, калі ён не прызнае прынцыпа, што правіцельствы атрымліваюць усю сваю законную сілу са згодай кіраваных народоў і што нігдзе німа таго права, каб народы, бытцым нейкая маетнасць, пэрэхадзілі ад аднаго валадара да другога... Я прэдлагаю, каб усе народы згодна прынялі пагляд прэзыдэнта Монроэ, што ніводзін народ не павінен гвалтам прымушаць другі народ да прыняцьця яго формы упраўленьня,— а, наадварот, кожнаму народу, малому і вялікаму, слабому і сільнаму, павінно быць дадзено права самому выбіраць для сябе форму упраўленьня і форму развіцьця...“

БЭРЛІН. С прычыны пісьма Вільсона газэты ў адзін голас пішуць, што дэмонстрація яго мае зусім малое практычнае значэньне. «Мір без пабеды нельга пагадзіць з ваеннай мэтай саюзьнікоў: зніштажэньнем нямецкаго мілітарызму“.

ЛОНДОН. «Westminster Gaz.» пішэ с прычыны пісьма Вільсона: «Ідэалы Вільсона ня могуць быць забаспечэны ніякім мірам без разгрому нашых ворагоў».

## Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

**З Вільні і Віленскай губэрні.**

**Табор для ваенна-палонных Puchheim.**

III Батальён.

Булкін Рубін, Вільня.
Конторовіч Барыс, „
Копэлёвіч Мэндэль, „
Юдка Лублін, „
Піляўскі Хаім, Мушык.

V Батальён.

Арлюк Давід, Ашмяна.
Гурвіч Щолом, Годуцішкі.
Кац Мэндэль, Падбродзе.
Райсман Ізраэль, Вільня.
Шнэер Файвуш, „
Тырольскі Еўсей, Тотэні.

(Далей будзе).







Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар В. Ластоўскі.